**№№135–136 (3674–3675)**

31 жніўня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**З-ЗА КРАТАЎ**

## Наста ПАЛАЖАНКА: «Яны абралі самы горшы варыянт»

*Дзмітрыя Дашкевіча прыгаварылі яшчэ да года пазбаўлення волі*

Пасяджэнне Глыбоцкага раённага суда адбылося за кратамі і было закрытым. Абвінавачанне знайшло некалькі дзясяткаў сведак з ліку міліцыянераў і зняволеных, сам Дашкевіч адмовіўся ад паслуг адваката.

*— Ён не ўдзельнічаў у працэсе, адразу назваўшы яго цыркам, сказаўшы, што не збіраецца ў ім удзельнічаць,* — расказала журналістам пасля суда нявеста і паплечніца Дашкевіча Наста Палажанка. — *Не даваў ніякіх паказанняў, нават не падымаўся з месца. І адмовіўся ад апошняга слова. Ён ні ў чым не прызнаў сябе вінаватым. Абскарджваць прысуд не збіраецца, бо не бачыць у гэтым сэнсу.*

Рашэнне суда: прызнаць Дашкевіча вінаватым у "злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы". Прыгавор: год пазбаўлення волі. У тэрмін пакарання ўключаны чатыры месяцы, якія Дашкевічу заставалася адбыць у калоніі па першай крымінальнай справе. Такім чынам, выйсці на волю Дзмітрый зможа 28 жніўня 2013 года.

*— Тут у калоніі нават супрацоўнікі, з якімі мы кантактавалі, здзіўляюцца такому жорсткаму прысуду,* — расказала Наста Палажанка. — *Як правіла, даюць 3 месяцы на дадатак. Было безліч варыянтаў. Яны маглі даць тое, што зусім не ўплывае на ягоны былы тэрмін, прыкладам, залічыўшы тыя 6 месяцаў ПКТ, якія Дзмітрый ужо адбыў. Круціцца можна было па-рознаму, але яны абралі самы горшы варыянт.*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

### За Эдуардам Лобавым лічыцца 7 парушэнняў рэжыму

Пра гэта паведаміла журналістам маці маладзёжнага актывіста **Марына Лобава**. Днямі Эдуард пазваніў дамоў, але гутарка была кароткай.

— Дазволілі пазваніць, але нічога пра сябе не паспеў паведаміць, — расказала Марына Лобава. — Сказаў толькі, што дайшла бандэроль з вітамінамі і што вырашылася пытанне наконт часопіса, які ён выпісаў, але часопіс даходзіць з перапынкамі. Гэта пасля маёй скаргі.

Эдуард Лобаў утрымліваецца ў Івацэвіцкай калоніі. Актывіст у сакавіку 2011 года атрымаў 4 гады зняволення па адной і той жа справе, што і Дзмітрый Дашкевіч. У калоніі і Эдуард Лобаў адмовіўся падпісваць прашэнне аб памілаванні.

**ВЫБАРЫ-2012**

## ЦВК дазволіла ўдзельнічаць у выбарах яшчэ 11 кандыдатам

28—30 жніўня Цэнтральная выбарчая камісія разгледзіла скаргі ад 53 прэтэндэнтаў, якім адмовілі ў рэгістрацыі ў якасці кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у Мінску.

Раней старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына казала, што камісія мае прэтэнзіі да некаторых з іх у асноўным з-за некарэктнага афармлення падпісных лістоў пры зборы подпісаў. У праграме АНТ "Тэма дня" Лідзія Ярмошына асобна "прайшлася" па Мілінкевічу. Яна заявіла, што подпісы, сабраныя лідарам руху "За свабоду", афармлены "ужасно неправильно". Яна патлумачыла, што гэтыя подпісы "внешне настолько неопрятными являются, что не нужны эксперты-графологи...".

Зарэгістраваных з ліку апазіцыянераў настолькі мала, што яны, калі б нават прайшлі ў Палату прадстаўнікоў у якасці дэпутатаў, то наўрад ці змаглі б там утварыць нейкую істотную кааліцыю. Раней цягам трох дзён з 53 чалавек, якія падалі скаргі, ЦВК зарэгістравала 11. Сярод іншых у гэты спіс трапілі **Уладзімір Малярчук** з Аб'яднанай грамадзянскай партыі, **Людміла Дзенісенка** са "Справядлівага свету", слесар **Артур Эшбаеў,** навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі Нацыянальнай акадэміі навук **Ягор Лебядок**, а таксама **Вольга Кавалькова** і былы міністр абароны **Павел Казлоўскі** ад АГП, а таксама артыст сатырычнага жанру **Яўген Крыжаноўскі**, якому адмовілі раней у рэгістрацыі з-за нейкіх недакладнасцяў у падатковай дэкларацыі.

Лідару аргкамітэта па стварэнні руху "Маладая Беларусь" **Артуру Фінькевічу** і актывісту кампаніі "Гавары праўду!" **Міхаілу Пашкевічу** адмовілі ў рэгістрацыі на падставе таго, што даты пад подпісамі нібыта пастаўлены адной рукой. Міхаіл Пашкевіч не паляніўся і сам асабіста абышоў кватэры 35 падпісантаў з 62, подпісы якіх выклікалі прэтэнзіі ў ЦВК. Людзі напісалі, што ставілі подпісы сваёй рукой і гатовы гэта сведчыць нават у судзе. Але да гэтага не дойдзе, бо ЦВК скаргі не задаволіла. Артур Фінькевіч кажа, што быў гатовы да адмовы, але фармальныя прэтэнзіі яго крыху здзівілі. "Ну, мы людзі навучаныя. Ведаем, як любяць чапляцца да подпісаў, таму тут усё сто разоў правяраем. І самае цікавае, што да подпісаў прэтэнзій і не было, але знайшлі да чаго прычапіцца — да даты. Маглі б пашукаць нейкую іншую прычыну, а так гэта занадта банальна, без асаблівых вынаходніцтваў", — сказаў актывіст.

Аляксандру Мілінкевічу таксама адмовілі ў задавальненні скаргі па той жа фармальнай прычыне — даты пастаўлены нібыта адной рукой, а не з-за "страшэнна няправільных" подпісаў. Графолагі-крыміналісты не змаглі даць пры гэтым уцямнага адказу наконт праўдзівасці сцвярджэння ЦВК. Сам Мілінкевіч выказаўся на гэты конт наступным чынам: "Улады баяцца страціць хоць які-небудзь кантроль за працэсам, бо вельмі няўпэўнена сябе адчуваюць. Нават адна асоба не з іх спісу выклікае ў іх нервовую рэакцыю, бо яны добра ведаюць настроі выбаршчыкаў. Страх і няўпэўненасць — галоўныя прычыны".

Магчыма, так яно і ёсць. Але ж можна было арганізаваць збор подпісаў на такім належным узроўні, каб спадарыні Ярмошынай не было за што зачапіцца?

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПА ЧУТКАХ...**

## Павел Латушка з'язджае працаваць у Францыю?

Міністры культуры ў нашай краіне доўга не затрымліваюцца на гэтай пасадзе — гэта ўжо традыцыя. Вось і Павел Паўлавіч Латушка, калі верыць чуткам, прапрацаваўшы тры гады на пасадзе, вось-вось можа з'ехаць паслом Беларусі ў Францыю. І ўжо нібыта падпісаны "агрэман". Праўда, сам спадар Латушка не захацеў ні абвергнуць, ні пацвердзіць гэтую навіну. У тэлефоннай размове карэспандэнту "Народнай Волі" было адчакана: "Я працую міністрам культуры". На сённяшні дзень гэта так. Але — у бліжэйшай будучыні? Такую інфармацыю міністр культуры Латушка адмовіўся аб сабе даваць — ці сапраўды нічога не ведае, ці гэта толькі чуткі...

І ўсё ж такі, калі П.Латушка адправіцца ў Парыж, што мы скажам ўслед?

Ён уяўляў сабой добра падрыхтаванага прафесіянала, топ-менеджара вышэйшага звяна, які выразна выконваў свае абавязкі. Часам, магчыма, калі Павел Паўлавіч адкрываў выставы ці віншаваў артыста-юбіляра, хацелася больш асабістага, чалавечага ўдзелу ў падзеі або лёсе таго ці іншага творцы. Але Латушка быў заўсёды зашпілены на ўсе гузікі. І толькі аднойчы на маёй памяці, калі Павел Паўлавіч прачытаў на памяць верш Максіма Багдановіча ў эфіры сайта TUT.by, ён стаў блізкім многім-многім нашым суайчыннікам... Але ў нас пакуль не прынята, каб чыноўнік — нават чыноўнік ад культуры —"вылучаўся". І Латушка па правілах усяго лукашэнкаўскага атачэння "зачыніўся". Хоць адчуваецца: асабісты патэнцыял чалавека значна больш багаты, чым выяўляецца на публіцы.

**Алена МАЛОЧКА.**

**ИЗ ПИСЬМА**

## За кого я буду голосовать...

В России есть должность Уполномоченного по правам человека. Страсбургский суд по правам человека принимает для рассмотрения дела от любого гражданина России.

В Беларуси нет должности Уполномоченного по правам человека, наша страна не подписала соответствующую конвенцию, а потому Европейский суд по правам человека не принимает от нас жалоб.

Я — работающий пенсионер. Буду голосовать за того кандидата в депутаты, который пообещает бороться за введение в Беларуси должности Уполномоченного по правам человека и за то, чтобы белорусы получили право направлять иски в Страсбургский суд.

**Эдуард КАЛЕЙ, минчанин.**

## Дзякуй!

Вялікае дзякуй прафесару Леаніду Лычу за адстойванне нашай роднай мовы! Сапраўдны барацьбіт!

**Арына Андрэеўна СЫЧОВА.**

*Мінск.*

**МОНИТОРИНГ**

## Кому верить?

На днях Белорусское телевидение озвучило данные социологического опроса Центра социологических и политических исследований БГУ. Социологи интересовались у белорусов, будут ли они голосовать на выборах в парламент, которые состоятся 23 сентября. Результаты опроса центра БГУ: 68% опрошенных заявили, что примут участие в голосовании. Еще 16% сказали, что скорее придут на избирательные участки, чем нет. Т.е. получается, что около 84% белорусов будут участвовать в голосовании.

Эти данные значительно расходятся с результатами опроса независимого Института социально-экономических и политических исследований, зарегистрированного в Вильнюсе. Правда, НИСЭПИ свой опрос проводил еще в июне. Только 50,7% опрошенных социологами НИСЭПИ заявили, что будут голосовать на парламентских выборах. 19,4% были категоричны в своих ответах — в выборах участвовать не будем. А 29,9% респондентов еще не решили, идти на избирательные участки или нет.

Кому верить?

**БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ**

### Олег Манаев, профессор, директор НИСЭПИ: «Я ожидаю, что не менее 60 процентов избирателей примут участие в выборах»

— Центр социологических и политических исследований БГУ — государственная структура и, естественно, не может выскакивать по таким чувствительным вопросам, как выборы, за определенные рамки, — говорит Олег Манаев. — Но там работают профессионалы, его возглавляет профессор Давид Ротман. Поэтому могу сказать, что это не то исследование, когда кто-то что-то слепил сверху, как иногда у нас случается.

Что касается социологических опросов... По опыту предыдущих избирательных кампаний — и парламентских, и президентских — могу отметить, что всегда предварительные данные о явке избирателей увеличивались непосредственно в день голосования. Срабатывает обычное психологическое правило, когда большая часть колеблющихся, независимо от того, о чем идет речь - о политике, моде, искусстве, присоединяется к большинству. Поэтому можно ожидать, что примерно 20% из 29,9% респондентов, которые в ходе июньского опроса НИСЭПИ еще колебались, идти на выборы или нет, присоединятся к тем, кто пойдет голосовать 23 сентября. Плюс-минус несколько процентов. Кроме того, сравнительный анализ показывает, что, начиная с 1995 года, в Беларуси явка избирателей на участки менее 60 процентов никогда не была. Хотя определенное снижение избирательной активности среди населения в последние годы наблюдается.

Я ожидаю, что не менее 60 процентов избирателей примут участие в предстоящих выборах в парламент. Но будет это 68%, или 80%, как говорят данные социологов БГУ, или меньше — посмотрим.

**— Согласитесь, что это не маленькая цифра. На ваш взгляд, чем можно объяснить такую высокую прогнозируемую явку?**

— Цифра действительно большая. Последние 60 лет во многих цивилизованных странах наблюдается спад политической активности. Причем проблема настолько серьезная, что в некоторых странах были пересмотрены избирательные законодательства, и выборы признаются состоявшимися, если на участки приходит треть избирателей или даже четверть.

В Беларуси действительно достаточно высокий уровень избирательной активности. Даже среди стран постсоветского пространства. На мой взгляд, это объясняется прежде всего тем, что мы живем в авторитарной стране, где существует много ограничений. И если, например, у жителей Литвы, Украины есть масса форм выразить свое отношение к тем или иным политическим или социальным процессам, которые происходят в стране, то у белорусов их нет. Поэтому для среднестатистического белоруса участие в выборах остается единственной возможностью высказать свою позицию, свое отношение к действительности. Высказать легально, зная, что его не уволят с работы или не разорят его бизнес. И, естественно, люди этим пользуются. Поэтому ничего удивительного нет в том, что выборы в Беларуси состоятся и явка будет.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**СКАНДАЛ**

## Бакіевы застануцца ў Мінску?

Кыргызстан па-ранейшаму заклікае беларускія ўлады экстрадзіраваць на радзіму братоў Бакіевых, аднак высокія асобы Беларусі робяць выгляд, што на такую просьбу можна не рэагаваць.

Свежы імпульс гэтая сітуацыя атрымала пасля публікацыі ў інтэрнэце фотаздымка брата экс-прэзідэнта Кыргызстана Курманбека Бакіева Жаныбека ў самым цэнтры беларускай сталіцы каля кавярні "Грунвальд". Рэакцыі кіргізскага боку давялося чакаць нядоўга: 24 жніўня Кыргызстан адклікаў свайго амбасадара. У самім Бішкеку МЗС краіны ўручыла вербальную ноту амбасадару Беларусі, у якой выказала заклапочанасць тым, што былы кіраўнік Службы дзяржаўнай аховы Жаныбек Бакіеў, які знаходзіцца ў міжнародным вышуку па абвінавачванні ў асабліва цяжкіх злачынствах, спакойна жыве ў Беларусі. Каля будынка беларускай амбасады сабраліся абураныя людзі, у вокны паляцелі камяні. У натоўпе былі сваякі забітых і пацярпелыя падчас падзей красавіка 2010 года. Тады падчас дзяржаўнага перавароту, калі ўлада перайшла ў рукі часовага кааліцыйнага ўрада з лідараў апазіцыйных партый, у выніку дзеянняў Бакіева і яго атачэння загінулі каля 90 чалавек і больш за тысячу былі паранены. Курманбека Бакіева, яго брата і яшчэ некалькі асоб з атачэння экс-прэзідэнта завочна абвінавацілі ў масавым забойстве і абвясцілі ў міжнародны вышук.

Курманбек Бакіеў з неафіцыйнай жонкай і двума дзецьмі прыляцеў у Беларусь 19 красавіка 2010 года. Улады Кыргызстана звярталіся ў Генпракуратуру Беларусі з просьбай выдаць Бакіева, але атрымлівалі адмовы.

Цяпер жа рэакцыя на публікацыю фотаздымка Жаныбека Бакіева прымусіла амбасадара Беларусі ў Кыргызстане Віктара Дзенісенку правесці прэс-канферэнцыю.

Ён заявіў, што мае сумненні наконт таго, што на фота менавіта Жаныбек Бакіеў. Сумненні дыплamata грунтуюцца на тым, што фотаздымак зрабіў актывіст беларускай апазіцыі. Але ён запэўніў, што кампетэнтныя органы займаюцца гэтай справай і ў хуткім часе з'явяцца нейкія каментарыі. Міхаіл Пашкевіч, які сфатаграфаваў Жаныбека Бакіева і выклаў фота ў інтэрнэт, можа з упэўненасцю сказаць, што справа насамрэч знаходзіцца "на кантролі", бо атрымаў у кавярні паперку з кароткім тэкстам: "Прывітанне ад Бакіева". "Лічу гэта яскравым доказам таго, што гэтая тэма выклікала напружанне ў адпаведных структурах. Што да выказванняў спадара Дзенісенкі, то яны падаюцца мне несур'ёзнымі. І гэта на фоне таго, што сама Генпракуратура ў гэтай сітуацыі за лепшае лічыць маўчаць", — сказаў Міхаіл Пашкевіч.

Кіргізскаму боку пакуль жа застаецца чакаць абяцаных тлумачэнняў ад беларускіх улад.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ**

## Новыя станцыі метро: млеем у чаканні...

*Начальнік Дырэкцыі па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна Павел Царун заявіў днямі, што пробны пуск цягніка па трох новых станцыях Маскоўскай лініі (яе яшчэ называюць "першай") "Грушаўка", "Пятроўшчына", "Міхалова" запланаваны на верасень. Пасля ўжо будзе адладжана абсталяванне і сістэмы бяспекі. Але канкрэтную дату ўводу ў эксплуатацыю трох станцый ніхто так і не агучыў...*

Падобна на тое, што ў верасні "закаркаваныя" аўтапробкамі Паўднёвы Захад і Малінаўка застануцца такімі няпэўны час. 1 верасня студэнцтва ды ўсе іншыя шкаляры будуць набівацца ў аўтобусы і тралейбусы, як селядцы ў бочку. Але тае бяды: калі столькі трывалі, то патрываем яшчэ... Галоўнае (і тое разумее кожны) — метро неўзабаве запрацуе, а гэта ж — сапраўдны выратавальны круг для дзясяткаў тысяч людзей. Кажуць: не тое свята, якое прыйшло, а тое, якога чакаюць... Так і з метро: людзі млеюць ўжо не ад розных там нязручнасцяў, якія прынесла маштабная будоўля, а ад прадчування будучага камфорту, што зваліцца на іх галовы. Галоўнае — расцягнуць прыемнае чаканне...

Адміністрацыя Ладуцькі і робіць, як умее, усё магчымае. 20 жніўня, напрыклад, гарадскі галава на аператыўнай нарадзе ў Мінгарвыканкаме даручыў сваім падначаленым прыцягваць гараджан — навучэнцаў, працоўныя калектывы, грамадскасць — да добраўпарадкавання новых станцый мінскага метро. "Неабходна распрацаваць графікі работ, забяспечыць працоўных усім неабходным", — даводзіў ён. Спадар Ладуцька заявіў, што суботнікі павінны праводзіцца рэгулярна — да ўводу ў эксплуатацыю новых станцый. Зараз (калі верыць БЕЛТА) да добраўпарадкавання станцый ужо прыцягнуты супрацоўнікі "Мінсктранса", Мінскага метрапалітэна, Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі.

І ўсё ж, у якой стадыі "фінішны этап" узвядзення станцый? Пакольkі пранікнуць у падземку не ўдалося (сказалі, што аб'ект строга рэжымны), паверым Паўлу Царуну, які паведаміў, што будаўніцтва ўсіх трох станцый — у завяршальнай стадыі: спецыялісты заканчваюць мантаж спецыяльных сістэм, а аддзелачнікі заняты сваім. Заканчваюцца работы і ў павільёнах. Дарэчы, у вестыбюлях станцый будуць арганізаваны пункты дадатковага агляду пасажыраў — мера па забеспячэнні бяспекі грамадзян. Яшчэ ён паведаміў, што новыя станцыі будуць абсталяваны безбар'ерным асяроддзем. Для людзей з аслабленым зрокам край ступеняў абазначаць яркімі жоўтымі палосамі. Ну, так ва ўсім свеце даўно. Сам бачыў у Нью-Ёркскай падземцы, роўна як і ў Вашынгтоне. Далей і на платформенных участках намалююць так званыя шчуц-лініі — рэльефныя жоўтыя палосы. І, нарэшце, самае файнае: на ўсіх трох станцыях будуць вертыкальныя ці гарызантальныя (нахіленыя) ліфты.



Метро — наколькі зручны від транспарту, настолькі і дарагі. У сэнсе, вядома, затрат на яго будаўніцтва. Адзін кіламетр мінскай падземкі абыдзецца ў сярэднім (у залежнасці ад горадабудаўнічых і геалагічных асаблівасцяў) ад 40 да 60 мільёнаў долараў. Участак трох станцый — ад "Інстытута культуры" і да станцыі "Пятроўшчына" (раён гандлёвага цэнтра "Кірмаш" і Медуніверсітэта) — на 5,2 кіламетра...

Сёння ў Мінскім метрапалітэне працуе 4300 чалавек. Гэтую лічбу агучыў начальнік КУП "Мінскі метрапалітэн" Расціслаў Юрэня.

Паводле яго слоў, за мінулы год метро перавезла 268 млн пасажыраў, штодня — па 732 тыс. чалавек.

А яшчэ спадар Юрэня адзначыў, што акупнасць метро складае пакуль толькі 55%, астатнія 45% датуюцца з бюджэту горада. І яшчэ... Для эксплуатацыі ліній, якія ўводзяцца сёлета, ужо набыта сем саставаў з 35 вагонаў. Яны зараз праходзяць абкатку і адладку. Са слоў начальніка сталічнай падземкі вынікае, што ўвод новых станцый метро 7 лістапада павялічыць пасажырапаток, як чакаецца, на 7 працэнтаў...

Метро — радасць і выгода для ўсіх мінчан і гасцей сталіцы. Тут ніякага перабольшання. І ўсё ж, як высвятляецца, не ўсе гараджане млеюць ад радасці...

Гутару з Любоўю Ягоравай (сустрэў ля яе ж уласнага дома на праспекце Дзяржынскага, калі фатаграфаваў метро "на паверхні"). Выслухаўшы мае "цялячыя ўзрушэнні" з нагоды новых станцый метро ў нашым раёне, яна, мякка кажучы, была больш стрыманай. "Вам, — кажа, — у вашых спальных панэльках, можа, і добра тое метро, а мне дык яно парушыла ўсё жыццё. Мала таго, што гэтулькі часу, лічы, пад самымі вокнамі грукаталі краны і гразь развялі несусветную, дык цяпер не ведаю — можа, і дом разваліцца. Бачыце, па ўсёй тынкоўцы трэшчыны якія! А як пабягуць электрычкі — што будзе?.. Падземка ж за якія дваццаць-трыццаць крокаў, падмурак ці вытрывае?.. От і думаем усёй вуліцай, як яно будзе..."



Азіраю дом Любові, суседскія. Усе каменныя, але старыя... Сапраўды, стаяць паблізу абноўленага праспекта, на вышыні, але ж унізе і зусім побач чыгунка. "То, мусіць жа, улада гарадская нешта вам прапаноўвала — ці ў кватэры пераехаць, ці яшчэ як?" — пытаюся ў кабеты. "Сказалі, што пабудовы нашы будуць зносіць, нейкі ўжо інвестар гутарыў з намі, салодка баяў... Але ніхто толкам не ведае, калі тое будзе. Тут атрымліваецца ні два, ні паўтара... Каб сказалі нешта канкрэтна: альбо так, альбо гэтак, — а то не мычаць, не целяцца. Каб жа ведала, што нас пакінуць у спакоі, то рабіла б капітальны рамонт дома... Адным словам, сяджу, як тая курыца на шасце... От пазіраю з брамкі, як па-новаму тратуарную плітку ўкладваюць. Проста смешна робіцца: ледзь урабілі падземны пераход, вакол паклалі плітку, а яе пасля дажджоў успучыла — цяпер перарабляюць. Усё ж навідавоку — і п'яныя работнікі, і іхныя начальнікі. Я ж сама будаўнік, кумекаю ў нашай справе... Цяпер зноў: сходцы — а тут, бачыце, як строма — не зрабілі, тратуар уздоўж пабудоў — ногі паламаеш. Але каму ў галаве нашы праблемы?.."

У рэшце рэшт развіталіся мы па-сяброўску — на добрай ноце. Ну як тут па-іншаму, калі млееш у чаканні новага метро? "Што ні робіцца, — заключыла напаследак спадарыня Люба, — а ўсё да лепшага. Дасць бог, і на маёй вуліцы ўсё неяк наладзіцца..."

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА

# Чего ждать от «Европейского диалога о модернизации»?

*Директор по исследованиям дискуссионно-аналитического сообщества "Либеральный клуб" **Евгений Прейгерман** поделился с "Народной Волей" своим мнением о новом проекте ЕС "Европейский диалог о модернизации".*

**— Евгений, как вы считаете, есть ли перспектива у инициативы ЕС "Диалог для модернизации"?**

— Смотря что иметь в виду под перспективой. Мне кажется, одна из главных проблем — это то, что, как только начинает в нашей стране реализовываться какая-то программа, сразу появляется завышенное ожидание. Так было с "Восточным партнерством", так сейчас и с "Европейским диалогом для модернизации". Если будут нормально определены цели, которые будут всем понятны, насколько участвует или не участвует государство, если будет понятно, что мы должны получить на выходе, то у проекта есть хорошее будущее. Этот проект может быть эффективен как некий механизм запуска дискуссии в стране о реформах. Порой складывается ощущение, что у партий и общественных объединений вообще нет программ модернизации Беларуси.

**— На сегодняшний день белорусские власти не участвуют в "Европейском диалоге для модернизации". Их позиция может поменяться?**

— Я думаю, теоретически все возможно. Для этого важно отойти от категорических формулировок. ЕС говорит: мол, мы хотим, чтобы власть участвовала в этом проекте, но в то же время на уровне Верховного комиссара, на уровне официальных документов говорится о том, что это прежде всего диалог с оппозицией, с гражданским обществом. Конечно, когда в авторитарной системе звучат такие формулировки, то сложно ожидать от власти, что она будет участвовать. Если отказаться от этих формулировок и пытаться какие-то нейтральные семинары проводить, от которых тоже будет хотя бы минимальная польза, я думаю, что чиновники в той или иной форме могли бы на это пойти.

**— На ваш взгляд, способно ли белорусское гражданское общество консолидироваться ради "Диалога для модернизации"? И еще — как по-вашему, не превратится ли весь этот проект в пустой обмен мнениями?**

— Европейский диалог для модернизации Беларуси имеет большой потенциал, но пока несет в себе мало конструктива, а заседания некоторых рабочих групп и вовсе напоминают балаган. Каждый говорит о своем, но как обобщить все эти мнения? Я не верю, что можно объединить оппозицию, гражданское общество Беларуси какими-то внешними программами. Соединить всех вместе может какая-то сильная структура, которая просто за собой потянет других. Насколько в этом плане "Европейский диалог" может быть полезен, сложно сказать. Я думаю, скорее объединение может произойти на почве работы с людьми. И когда начнутся какие-то очередные кризисные явления и если получится у кого-то нормально сработать с людьми — это сможет объединить. "Европейский диалог" — это скорее площадка, где можно учиться чему-то. Но опять-таки важно избежать пустой болтовни, а для этого нужно четко определить процедуры, цели, кто и в каком формате участвует в этом диалоге...

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

# «Прэзідэнт-гатэль» ужо вабіць агнямі

*Самы шыкоўны гатэль Мінска хутка прыме першых пастаяльцаў.*

Каля двух гадоў спатрэбілася для таго, каб струшчыць савецкую гасцініцу "Кастрычніцкая" і на яе месцы пабудаваць не маючы аналагаў у Беларусі шыкоўны "Прэзідэнт-гатэль". Па некаторых даных, на рэалізацыю праекта пайшло каля 50 мільёнаў долараў. Грошы прадаставіў экспартны крэдытны банк Турцыі "Цюрк Эксімбанк". Новы гатэль стане самым шыкоўным і тэхналагічна прасунутым у краіне.

Варта адзначыць, што "Прэзідэнт-гатэль" стаў адным з нешматлікіх буйных інвестыцыйных праектаў, у які не прыйшлося ўносіць значных змен. Напрыклад, іранскі гатэль "Перс поліс", які мусіць з'явіцца ў раёне Нямігі, пасля ўзгаднення праекта з грамадскасцю пазбавіўся аздабленняў у выглядзе ўсходняга дывана і страціў значную частку індывідуальнасці.

У гэтым сэнсе "Прэзідэнт-гатэлю" пашанцавала куды больш. У параўнанні з "Кастрычніцкай" гасцініца ўзрасла на некалькі паверхаў і пашырылася новымі карпусамі. Для VIP-персон ёсць нават асобны ліфт, які даставіць іх у закрытыя апартаменты з надзвычайнымі ўмовамі бяспекі.

Пры гэтым выглядае будынак даволі лаканічна — барвова-карычневы фасад са стылізаванымі выявамі антычных калон, верхнія паверхі ўпрыгожаны нескладанай ляпнінай. Просценька, але, як кажуць, з густам. Тым больш што галоўнае схавана за празрыстымі дзвярыма будынка.

Унутры гатэль будзе проста шыкоўны. Бары, спартыўныя залы, рэстаран, басейн, канферэнц-залы — усё пачне працаваць пасля адкрыцця. Дарэчы, скончылі працу па ўзвядзенні новага будынка даволі хутка. Як і планавалася, адкрыццё адбудзецца ў верасні, хаця хадзілі чуткі аб тым, што чырвоную стужку перарэжуць у ліпені.

З сакавіка ўсе сілы будаўнікоў былі скіраваны на тое, каб надаць унутранаму аздабленню належныя бляск і шык. Па словах майстроў, пераважаюць залацістыя колеры, частка аздаблення выканана з дрэва, а мэблю ўвогуле спецыяльна зрабілі для гатэля.




Дарэчы, мінскаму трохзорнаму гатэлю "Гарні", што з'явіцца ў раёне вуліцы Інтэрнацыянальнай, пашчасціла куды менш. Невялікая гасцініца з гістарычным фасадам павінна была адчыніцца ўжо некалькі месяцаў таму, але дагэтуль яе ўзвядзенне не завершана. Кажуць, што нехта істотна "сэканоміў" на будаўніцтве. Маўляў, нават мэблю набывалі не новую, а перавезлі з гасцініцы "Беларусь".

Вяртаючыся да "Прэзідэнт-гатэля", можна зазначыць, што ў гэтыя дні там ідзе апошняя падрыхтоўка перад адкрыццём. Бачна, што ў холе гасцініцы ўжо зззяюць лямпы, а на газоне перад ёй высаджаны дэкаратыўныя дрэўцы. Толькі тэхнічная загароджа і блокі непакладзенай тратуарнай пліткі нагадваюць аб тым, што праца яшчэ не скончана.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## *Даражэе праезд*

Кошт праезду ў грамадскім транспарце Мінска ў кастрычніку павялічыцца на 13% да 1700 рублёў. Пра гэта паведаміў дырэктар ДУ "Сталічная транспартная сувязь" Валерый Шкуратаў.

Ужо падрыхтавана рашэнне аб павышэнні кошту праезду. Цяпер пасажыры плацяць за адну паездку 1500 рублёў. Транспартнікі сцвярджаюць, што мінчане аплачваюць толькі 30% выдаткаў транспартных арганізацый на арганізацыю перавозак.

## *Абяцанкі-цацанкі...*

*Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што сярэдні заробак мінчан у 2013 годзе складзе 670 долараў пры курсе 8900 рублёў за долар.*

Такую заяву спадар Ладуцька зрабіў днямі падчас сустрэчы з Героямі сацыялістычнай працы, Героямі Беларусі, якія атрымліваюць пенсіі за асобыя заслугі перад краінай.

Па словах чыноўніка, у ліпені гэтага года сярэдні заробак мінчан дасягнуў 580 долараў у эквіваленце, а ў снежні ўзрасце да 600 долараў.

— Для таго каб у Мінску заробкі дасягнулі 670 долараў, трэба, каб вытворчасць працы ў сталіцы ўзрасла па меншай меры на 20—30 працэнтаў, — кажа эканаміст **Леў МАРГОЛІН**. — Але не думаю, што гэта магчыма. Ва ўсялякім разе ў тых умовах гаспадарання, якія існуюць сёння. Па-другое, мы ж ведаем, як такія лічбы атрымліваюцца. Даеш план — і ўсё! А хтосьці палічыў, які аб'ём вытворчасці павінен быць у Мінску згодна з такімі планавымі лічбамі? Наколькі гэта дасягальна? Калі ёсць заданне павысіць аб'ём валавай вытворчасці на 30 працэнтаў, значыцца, будзе магчымасць і заробкі падняць. Але галоўнае — не паўтараць мінулыя памылкі. У 2010 годзе людзям ужо далі сярэдні заробак у 500 долараў. Усе ведаюць, чым гэта скончылася...

Эканаміст **Леанід ЗАЙКА** лічыць, што сярэдні заробак у 670 долараў па Мінску ў наступным годзе цалкам магчымы, але *"і гэта ўжо не грошы".*

*"У Расіі афіцыянтка ў кафэ зараз атрымлівае 700 долараў*, — кажа ён. — *Дык чым мы хвалімся?"*

Так, сярэднія заробкі можна падняць і да 1000 долараў, але якія тады будуць цэны?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

## *Дэпутаты прапанавалі скасаваць гімназіі і ліцэі*

Намеснік старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ **Анатоль Глаз** заявіў, што на навучанне гімназіста вылучаецца на 35% больш сродкаў, чым на школьніка. Акрамя таго, існаванне гімназій і агульнаадукацыйных ліцэяў стварае "рэзкае расслаенне" ўзроўню агульнай сярэдняй адукацыі ў краіне. *"Гэта значыць, мы ідзём па шляху "захаднізацыі школы, рэзкага расслаення, палярызацыі, а з гледзішча палітыкі нашай дзяржавы гэта няправільна. Мы павінны прапаведаваць прынцыпы савецкай школы",* — сказаў Глаз.

Падтрымаў яго і былы настаўнік, старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Уладзімір Здановіч. Ён заявіў, што зараз у гімназіі "пачала перамяшчацца праблема карупцыі", бо кожны бацька спрабуе туды аддаць сваё дзіця.

*"Калі ўжо ствараць ідэальна роўныя ўмовы для дзяцей у Беларусі, то ад гімназій трэба адмовіцца",* — лічыць Здановіч. Унутры школы можна ствараць гімназічныя класы, лічыць ён.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# «Грандиозный скандал» от Андрея Курейчика

На одном из беларуских сайтов Андрей Курейчик пишет письма Владимиру Рылатко. Драматург — бывшему первому замминистра культуры. Давно пишет. Такая вот антитеза. На этом заведомом противоречии (творец — чиновник) сей эпистолярий и держится. Драматург, зная, что адресат никогда не сможет ему ответить той же монетой, упивается возможностью свободно говорить известному чиновнику Владимиру Рылатко колкости, иногда откровенно хамить, высмеивая нашу далекую от идеальной культурную жизнь. Когда и чем провинился государственный муж Рылатко перед острословцем Курейчиком, за какое невнимание к дарованию последнего превратился чуть ли не в мишень и платит теперь своим именем и фамилией? Чего, попросту говоря, бывший первый замминистра недодал лично Курейчику, мы вряд ли узнаем, да дело и не в этом (хотя "его пример — другим наука": вот как виртуозно и зло можно отыгрываться на высокопоставленных обидчиках).

Но дело, повторюсь, не в этом, а в том, что в последнем письме Андрей Курейчик, как всегда из богатого, завидного, недоступного широкому белорусскому плебсу демократического далека, пишет о нашей корявой жизни. А именно — о результатах первого конкурса кинопроектов на производство фильмов с финансовой поддержкой из республиканского бюджета. То есть о распределении государственных денег на кино. Конкурс этот был объявлен Министерством культуры в конце зимы, а теперь обнародованы результаты — их можно найти на сайте министерства. Драматург с результатами конкурса не согласен, громко хуля министерство и называя итоги сего мероприятия "грандиозным скандалом".

По правде говоря, я не помню конкурса, результаты которого не были бы сто раз опровергнуты, раскритикованы, высмеяны — кулуарно, естественно, и теми, кто не стал победителем. Критикуют всех и вся. Но караван идет, конкурсы продолжают объявляться, лучшие все равно в них стремятся участвовать, несмотря на то, что даже результаты всемогущего "Оскара" подвергаются осмеянию — мол, стареющее жюри давно потеряло художественный вкус.

Да, проигравшие почти всегда не согласны с поражением — это как закон. Но я думаю — слава Богу, что не согласны! Хорошо, что творческие люди так амбициозны, так энергичны, так беззаветно преданны своей творческой позиции: на такой их горячности, обидчивости, уверенности в себе искусство и держится. Так что "грандиозный скандал" запланирован, можно сказать, в любом конкурсном мероприятии. Поэтому наша ситуация мне кажется довольно обычной: два члена жюри из 12, как явствует из письма господина Курейчика, не согласны с результатами белорусского конкурса кинопроектов. И это скандал? Но Андрей, как мне показалось, уже заранее злорадствует, проводя параллели с итогами конкурса "Евровидение" и вспоминая президента, который твердо пообещал, что прощается только на первый раз... Хотелось бы уточнить, по правде говоря: что именно прощается? И на что рассчитывает автор? На новое высочайшее разбирательство? На вмешательство первого лица для осуществления высшей справедливости и настоящего наказания? Да, вот оно, оказывается, истинно демократическое наслаждение: смотреть, как барин-хозяин порет твоего мужика-соседа... А казалось, что Андрей Курейчик ратует за либерализм...

Но, критикуя и высмеивая результаты конкурса кинопроектов, Андрей Курейчик в принципе не точен, объявляя, что все победители — исключительно проекты "Беларусьфильма". Это не так. Большинство — да, проекты государственные. Но не все! И подобное называется не опиской, а подтасовкой фактов. Это во-первых. Во-вторых, по-моему, на первом (!) конкурсе, который проводит государство, киностудия "Беларусьфильм" должна была иметь преференции. А как иначе? Да, может быть, с идеальной, "книжной" точки зрения подобное не вполне демократично. Но это — жизненные правила, опыт поколений, так сказать, неписаный закон. И, как известно, общество способно функционировать до тех пор, пока оно уважает неписаный закон не меньше, чем писаный.

Я лично никоим боком с отечественным кинопроцессом не связана. Нет там моих ни материальных, ни творческих интересов. И вступила в дискуссию с уважаемым господином Курейчиком, защищая в данном случае наше Министерство культуры, просто на правах зрителя: я жду шедевра, и мне все равно, кто его сделает — частник или государство. И я совершенно не уверена, что частник — стопроцентная удача. А вот сценарий Алексея Дударева "Белые Росы-2", например, который тоже находится в списке победителей, внушает мне больше надежд. Потому что Дударев — это имя, потому что предыдущие "Белые Росы" — отличное кино, и, мне кажется, продолжение будет не хуже. И я не склонна видеть в победе на конкурсе данного проекта фальсификацию и коррупцию. Тем более что для таких обвинений требуются факты, а не только блестящие стилистические способности.

Много лет назад Алексей Онуфриевич с явным удовлетворением говорил, что скоро в Беларуси взойдет новая звезда драматургии — Андрей Курейчик. Правда, молодой человек еще учится в вузе, живет на копейки, но ему надо помочь — во всех смыслах. Не преувеличиваю — у Дударева в глазах светился восторг, словно перед каким-то открытием. Да и все мы были, так сказать, в предвкушении. И это понятно: "талант — единственная новость, которая всегда нова". А теперь, когда я позвонила Алексею Онуфриевичу, он ответил:

— Мне скучно говорить об Андрее Курейчике. Как я к нему отношусь? Я к нему не отношусь... За его понтами ничего не стоит... За его словесными моделированиями нет ни души, ни... Он циник, который может переступить через все. И реагировать на его выступления смешно. Его нету. Пустота звенит...

Так и хочется сказать: прав был Дударев раньше, прав он, видимо, и сейчас.



СТАЛА ВЯДОМА...

# Лукашэнка падпісаў Жыллёвы кодэкс

*Ён уступае ў сілу праз шэсць месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання.*

Кодэкс, які дзейнічаў, быў прыняты ў 1999 годзе і з моманту прыняцця не карэкціраваўся. А з гэтага часу шмат чаго змянілася: напрыклад, ва ўласнасці жыхароў зараз знаходзіцца 86,7% жылля.

У новым кодэксе замацаваны шэраг норм, якія маюць важнае значэнне для далейшага ўдасканалення жыллёвых адносін. У прыватнасці, у ім пашыраюцца правамоцтвы ўласнікаў па валоданні і карыстанні жылымі памяшканнямі, якія належаць ім на праве ўласнасці. Так, прадастаўленне права валодання і карыстання жылым памяшканнем мужу (жонцы), бацькам і дзецям будзе ажыццяўляцца ўласнікам самастойна без неабходнасці папярэдняга атрымання чыёй-небудзь згоды, іншым родным і сваякам — з пісьмовай згоды членаў, былых членаў сям'і, якія пражываюць сумесна з ім і маюць долю ў праве ўласнасці на гэта жылое памяшканне.

Устанаўліваецца абавязак рэгістрацыі заключаемых паміж уласнікамі, наймальнікамі, паднаймальнікамі жылых памяшканняў, грамадзянамі, якія з'яўляюцца членамі арганізацый забудоўшчыкаў, і членамі, былымі членамі іх сем'яў у выпадках, вызначаных Жыллёвым кодэксам, пісьмовых пагадненняў аб прызнанні членам сям'і і аб парадку карыстання жылым памяшканнем, а таксама дадатковых пагадненняў да іх у мясцовых выканаўчых і распарадчых органах, што будзе садзейнічаць урэгуляванню ўзнікаючых паміж бакамі канфліктных сітуацый па пытаннях валодання і карыстання жылымі памяшканнямі.

Рэгламентуецца парадак адчужэння жылых памяшканняў у выпадку парушэння ўласнікамі правіл карыстання жылымі памяшканнямі, утрымання жылых і дапаможных памяшканняў або ўхілення ад унясення платы за жыллёва-камунальныя паслугі.

Вызначаецца парадак пераводу нежылых памяшканняў у жылыя, магчымасць ажыццяўлення якога на гэты час заканадаўствам не прадугледжана.

Акрамя таго, удакладняецца структура платы за жыллёва-камунальныя паслугі, якая прадугледжвае выдзяленне з платы за тэхнічнае абслугоўванне ў асобны плацеж платы за бягучы рамонт, якая будзе ўносіцца для пакрыцця фактычных затрат па прадухіленні інтэнсіўнага зносу, аднаўленні спраўнасці і ліквідацыі пашкоджанняў канструктыўных элементаў, інжынерных сістэм дома. Пры гэтым арганізацыям, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі, ставіцца ў абавязак пазначэнне ў плацежных дакументах тарыфаў, аб'ёмаў і пераліку аказаных жыллёва-камунальных паслуг па шматкватэрным доме.

